# ЗНІКАЮЧАЕ РАМЯСТВА



Хоць калісьці і звалі каваля мянушкай „выдзьмімех“ ды строілі кепікі, кажучы, што „каваль без сякеры і без нажа сядзіць“, але дзе што якое — усе да яго беглі. Бо чаго толькі не вычароўвалі кавалі ў сваіх кузнях! Не адно плугі, бараны, вілы, сякеры і іншыя гаспадарчыя прылады, але і новыя вазы ды сані кавалі, мудрагелістымі выкрутасамі санкі-шыткі здобілі. Ды што і казаць — не мог чалавек і кроку ступіць без каваля. Не дзіва, што прыказка была: „калі на дарозе лёд, то кавалю мёд“, бо „босы“, непадкованы конь у галалёдзіцу аніяк на дарогу не выйдзе. І цанілася кавальская работа высока: за новы серп жанчына мусіла цэлы дзень жаць на кавалёвым палетку, а за матычку — дзень капаць. І спяшаліся аднасяльчане памагчы кавалю і ў кузні і ў яго гаспадарцы — ніколі ж невядома, ці ў самую „чарнуху“ раптам сашнік у плузе не адваліцца, а ў касавіцу — не трэсне ў касе шыйка ды ў пиліпаўку — карэнны зуб не забаліць так, што месца сабе не знойдзеш. “Як гэта? А што кавалю да чалавечых зубоў?“ — спытаецеся. А тое, што пасля бездапаможнай замовы бабкі-шаптухі валокся чалавек да каваля, і той, схапіўшы клешчы, выдзіраў хворы зуб. Нічога, калі і памыляўся ды замест хворага вырываў са два здаровых. Такое здараецца і сёння нават нашым вучоным лекарам-дантыстам. Вось таму і гаварылася, „сталяр робіць грудзьмі, а каваль — людзьмі“.

Добры каваль заўсёды меў у сябе па пару, а то і па некалькі вучняў, што былі ахвочыя навучыцца гэтаму шанаванаму і даходнаму рамяству. І вучыліся доўга ды старанна. Вось як прыгадвае сямідзесяцігадовы **Хілімон Харкевіч** з Ляшукоў, што ў Гайнаўскім павеце, дык кавальству ён вучыўся год у Аляксея Валкавыцкага ў Заблоччыне каля Нараўкі, потым два гады ў Юльяна Засіма ў Семяноўцы. Той надта ж добрым кавалём і слесарам быў, нават стрэльбы-аднарукі ды дубальтоўкі са сваімі вучнямі рабіў. Калі ў 1926 годзе Х. Харкевіча ўзялі ў войска, дык ён неўзабаве апынуўся на шасцімесячных курсах вайсковых кавалёў у Гродне. У тыя часы ў войску без каваля было горш, чым без афіцэра. Бо калі ў час паходу часць на адпачынак станавілася, дык афіцэры ішлі водку глушыць або дзяўчат запеччу пашчыпваць, а кавалі мусілі і коней перакаваць, і вазы дагледзець.



*Хілімон Харкевіч у сваёй кузні.*

Пасля войска Х. Харкевіч адразу ўзяўся за кавальства. Бацька прадаў адну карову — купілі кавадла, другую — набылі іншую кавальскую дробязь. Рабіў у кузні днямі і начамі, а работы заўсёды было па вушы: каваў плугі, бараны, вазы — усё, што толькі ў тадышняй гаспадарцы патрэбна было, нават крыжы на магілы выкоўваў. Хоць гаспадарку меў не малую, бо дзесяць гектараў, але ў поле і не выходзіў — ўсё людзі абраблялі.

— А цяпер?

— Каб здароўе служыла, дык работы і зараз многа: ладаваць плугі, бараны, коней каваць але гэта ўжо не тое, што калісьці бывала. Вазы цяпер гумовыя, бараны ды плугі гатовыя прадаюцца ў краме. Ці табе сякера, ці малаток, ці штолень іншае — усё крамнае. Сярпы, косы ды матыкі сыходзяць ужо з поля. А з імі адыходзіць з вёскі і наша кавальскае рамяство...

І праўда. Моладзь неахвотна бярэцца за кавальскі молат ды кляшчы, не спяшаецца стаць каля палаючага горна, дзе, як кажа загадка: „спераду гарача, а ззаду халадно“, больш да механікі, гідраўлікі, слёсарства хіліцца. І гэта натуральна — механізацыя заваёўвае вёску, а кавальскія работы выконваюць сялянам майстэрні сельскагаспадарчых гуртноў ды міжгуртковых машынных базаў.

І цяпер у вёсцы вельмі рэдка дзе ззяе палкі жар вуголля ў забытых кузнях і адзываецца дзвэнканне молата па кавадле — гэты апошні набат знікаючаму рамяству.

**І. Снарскі**
**Фота аўтара**

## АДГАЛОСКІ

# З сэрцам да Беларусі

З нагоды выдання на польскай мове кніжкі Янкі Брыля „Свет блізкі і далёкі“ выдатны польскі пісьменнік Вайцех Жукроўскі выступіў з эсэ „Блізкія, але абыходжаныя“, надрукаваным у чатырнаццатым нумары „Новых кніжак“. Гэтае выступленне Жукроўскага з'яўляецца нечым так цудоўна шчырым, як і творчасць Брыля. З'яўляецца яно споведдзю! Жукроўскі, апісваючы Беларусь, свае мінскія сустрэчы, Брыля, агольвае карэнні чалавечнасці. Кажа нам, што няма і не можа быць нічога сапраўднага без захавання ўласнай годнасці, без імкнення да стварання непаўторных каштоўнасцей. (Брыль мог гладка паланізавацца).

Выступленне Жукроўскага чытаецца, як зварот. Зацікаўленню беларускай культурай прыдае ён гістарычна-грамадскі сэнс у цэласці працэсу выхоўвання польскага грамадства. Перасцерагае перад немагчымасцю жыць „урыўкамі“, абыходзячы збоч тое, што прыкрае, нязручнае... Не існуе блізкасць без сардэчнасці, без задушэўнай зацікаўленасці. Ведае, што гісторыя — гэта толькі крыху далейшае сёння. Піша: „...у сваёй напышлівасці лічым, што ўспрыйманне (беларусамі — С.Я.) польскай культуры з'яўлялася зусім зразумелым, — узыходжаннем, а не дэнацыяналізацыяй. (...)Беларуская мова з'яўлялася моваю прастанароддзя, польская — панскай, значыць, калі хочаш ісці ўгору, стаць служачым, настаўнікам, афіцэрам, павінен ты вырачыся свайго паходжання. — Дык трэба нам мець адвагу сказаць гэта сабе! Прызнанне да віны з'яўляецца ачышчэннем. Толькі высакародны народ здольны да таго, іншы — хавае нікчэмнасць сваіх уладароў, давіцца ёю, даводзіць сябе да самаатручвання“.

Такое нельга чытаць без хвалявання! Тым болей, што Жукроўскі выказваецца ў сучасным значэнні, без абыякавай, архіўнай аб'ектыўнасці, актуалізуючы з нядаўняй гісторыяй.

„Свет блізкі і далёкі“ называе ён кніжкай аб станаўленні нацыянальнай самасвядомасці, што ў беларускіх умовах атоесамлівалася з класавымі пачуццямі прыналежнасці да тых, „глухіх і сляпых...“, якія не мелі ні голасу свайго, ні правоў сваіх. Адны толькі — абавязкі!

У „Сірочым хлебе“ намаляваны псіхічны партрэт нарадзін мастака слова, які — адчуваючы свой чарадзейны талент — вырашае аддаць усяго сябе на службу інтарэсаў прыгнечаных людзей, анямелых ад цемры, дурноты ды загнанасці. Пісьменству Янкі Брыля характэрна рэдкая ў літаратуры душэўная далікатнасць, безупынныя старанні аб зразуменні чалавека, ягоных учынкаў, добрых ці злых... Чытаючы Брылеву прозу, маеш ўражанне, быццам дакранаешся ты жывой крыніцы добрасумленнасці, шчырасардэчнай прыхільнасці. Чалавечнасці!

**Сакрат Яновіч**

## Працяг Паўлючуковай блытаніцы

У апошняй „ПАЛІТЫЦЫ“ за 1974 г. В. Гелжынскі дагледзеўся ў „Вершаліне“ У. Паўлючука праблематыкі... былых каланіяльных краін! Забываючы на безадказнасць таго, паведамляю: у 1880 г. летапісец Крынкаўскай царквы, да якой належыла і Грыбоўшчына, упамінае пра існаванне ў ваколіцы масавай секты скакуноў. Пытаю — ці пашырэнне скакунства, аб якім ужо і памяць загінула, звязваць з шокам пасля рэвалюцыйнага 1863 года, з буравеснай „Мужыцкай праўдай“, з тадышнім задушваннем уладамі ідэі беларускага народа?...

А мо сектанцтва гэтаксама даўняе, як і ідэалогія наогул?

Гелжынскі абразліва цудачыць, ствараючы адчуванне Беласточчыны, як нейкага першабытна палінезійскага вострава!

**С. Яновіч**

### У КАРАЛЕЎСТВЕ ДЗЕТВАРЫ

У прадшколлі ў мястэчку Гарадок (Беластоцкі павет) пад вокам выхавацельніц А. Гудэль, Г. Пшэсмыцкай, М. Самойлік і кіраўніка Р. Сідар знаходзіцца 65 дзяцей.

Цікава пабываць сярод наймалодшай гарадоцкай дзетвары. Бесклапотна бяжыць у яе час. Тут цёпла, утульна, рознаколерна. Дзеці маюць розныя цацкі, ахвотна спяваюць, з захапленнем слухаюць казкі, ходзяць на экскурсіі. Знаёмілі яны нас з кніжным куточкам, з акварыумам, паказвалі свае малюнкі, самастойна пабудаваныя з каляровых кубікаў домікі і каралеўскія замкі. Усе былі зацікаўлены нашай першай сустрэчай.

Тэкст і фота **Я. Ц.**



*Дзеці слухаюць цікавую казку, якую чытае выхавацельніца Галіна Пшэсмыцкая.*

Пачатак на стар. 1

# Ахрымы

чатак вёсцы і цяперашняму „роду“ **Ахрымюкоў** у ёй. Магчыма, што на падмогу Ахрыму быў тут паселены якісьці селянін з ваколіц **Бельска** і ён запачаткаваў сённяшніх **Бельскіх.**

Асочнікам у тыя часы жылося не так ужо і дрэнна. Іх надзялялі паловай або і цэлай **валокай** зямлі (валока — ад 20 да 30 га), яны былі звольнены ад падаткаў і іншых павіннасцей. Але служба асочнікаў не належала да прыемных і бяспечных. Навакольныя сяляне не маглі абысціся без лесу, кралі дрэва на паліва, прылады, будынкі, патаемна палявалі на ляснога звера. Калі ж асочнік глядзеў на гэта праз пальцы, неўзабаве аказваўся ў „казні“, а яго сям'я без хаты і зямлі. Зноў жа надта прыдзірлівых і службістых асочнікаў сяляне па-свойму каралі, а нават і жыцця пазбаўлялі. Вось і прыходзілася ім так выкручвацца, каб і воўк быў сыты і каза цэлая.

Асочніцтва было і сплыло, а людзям потым жылося тут цяжкавата. Як прыгадвае васьмідзесяціпяцігадовая **Еўдакія Кардаш,** калісьці **пушча карміла і апранала вёску.** Пры вырубцы і пасадцы лесу працавалі таксама і жанчыны. А мужчыны, апрача гэтага, за адзін сезон па 2-3 разы ішлі на **арэльку.** „Пасы“ вязалі ў **бяндзюгах** на Нараўцы і Лутоўні і гналі аж у Тыкоцін. Жанчыны ўпраўляліся з бядняцкай гаспадаркай, а дзеці і старыя або паслі быдла і свіней, або збіралі ягады, арэхі, грыбы, жалуды. **Жалуды** былі асноўным кормам для свіней.

Пушчанская глуш прымушала людзей шукаць ратунку ад хваробаў і скалечанняў у розных **лекавых раслінах** або падавацца да бабулек і дзядкоў, што ведалі **замовы** ад укусу змяі, крывацячэння, зубнога болю. Старэйшыя жанчыны і па сённяшні дзень захавалі ў сваёй памяці цэлую „працэдуру“ **адсявання** ў дзяцей „пярэпалахаў“.

Разбудзілі ахрымаўцаў падзеі **Кастрычніцкай рэвалюцыі,** якую яны сустрэлі, калі былі ў бежанстве ў Расіі. Некаторыя з іх, асабліва маладыя, з'яўляліся байцамі **Чырвонай Гвардыі,** і на розных франтах змагаліся за **Савецкую ўладу.** Апынуўшыся потым на бацькаўшчыне і хлябнуўшы ўдосталь тут гора і нястачаў, актыўна ўключыліся ў прагрэсіўны рух. Калі недзе ў пачатку 1926 г. паўстаў у Ахрымах гурток **Грамады,** на чале якога былі **Васіль Кардаш,** старшыня, і **Севярын Кананюк,** сакратар, дык лік яго членаў павялічваўся з дня на дзень, нават некаторыя гаёвыя ўступілі ў арганізацыю. Пасля роспуску Грамады, некаторыя члены былога яе гуртка ўступілі ў **КПЗБ.** Севярын Кананюк і Нічыпар Несцярук трапілі ў кіпцюры санацыйнай дэфензівы, былі падвергнуты жорсткім катаванням у бельскай турме. Там аднялі ім здароўе, бо пасля выхаду з катоўні яны ўжо нядоўга пажылі.

З першых дзён гітлераўскай акупацыі ў Лядскай пушчы сталі базавацца **партызаны.** Былыя грамадаўцы і капэзэтбоўцы памагалі ім харчамі і адзежай, былі сувязнымі, або, як, напрыклад, **Дзмітрый Несцярук,** былі ў партызанскіх атрадах і ўдзельнічалі ў баях з акупантам. Немцы вёску **пацыфікавалі,** загадалі разабраць будынкі, людзей жа выселілі ў Ляўкова або Беласток.

Жыццё вярнулася ў гэты куток толькі пасля вызвалення. Цяжка ішла адбудова, але ўсё ж з году ў год прыбывала будынкаў, зарунелі новымі пасевамі загоны. А часы былі неспакойныя. Банды рэакцыйнага падполля тэрарызавалі людзей, забівалі актывістаў. У вёсцы паўстала моцная партыйная арганізацыя **ППР** і **ОРМО.**

Цяпер Ахрымы — гэта ціхая, працавітая вёска. За гады народнай улады з яе выйшлі **настаўнікі, афіцэры Людовага Войска Польскага** і **органаў міліцыі,** шмат моладзі яшчэ вучыцца ў сярэдніх школах. Няспынна павышаецца ўзровень сельскай гаспадаркі, прыбывае дабытку ў хлявах. На правым беразе ракі Нараўкі, амаль насупраць вёскі, нядаўна выраслі карпусы **ляўкоўскай керамічнай фабрыкі.** Маладыя ахрымаўцы атрымалі там работу, некаторыя працуюць на чыгунцы. Ужо не дрымучая Лядская пушча, але ўсё больш выдайная сельская гаспадарка і мясцовая прамысловасць з'яўляюцца асновай жыцця сённяшніх Ахрымаў.

**Мікалай Гайдук**

# ТЫТУНЁВЫЯ ТУРБОТЫ

(Працяг са стар. 1)

лася. Пасля загадчык скупачнага пункта Станіслаў Барадзюк сказаў мне, што трэба было склікаць кваліфікацыйную камісію, бо адзін з плантатараў не згадзіўся з ацэнкай якасці яго тытуню.

А 1 гадзіне дня зноў аб'явілі перапынак, на гэты раз абедзенны.

Прабую стаць у абароне сялян.

— Нічога зрабіць не магу, — бездапаможна развёў загадчык Барадзюк рукамі. — Такі парадак працы. На прыёмным пункце праца цяжкая. Востры пах тытуню безупынна б'е ў нос. Пякучы пыл дзярэ за горла. Трэба даць нашым людзям крыху часу на адпачынак. Ды і сяляне могуць таксама за той час штосьці перакусіць. Дзеля гэтага наладзілі мы тут буфет.

Заходжу ў гэты буфет, бо і мне страўнік прыпомніў, што пара б перакусіць чаго добрага. Невялічкі пакой перапоўнен людзьмі. Пад столлю вісіць шэрая хмара дыму. Столік заліты аранжадай. Брудна і непрыемна.

— Што ў вас можна атрымаць на абед? — звяртаюся да буфетчыцы.

— Вось тое, што бачыце, — паказвае яна на шкаф-халадзільнік, дзе красуецца некалькі худых селядцоў з цыбулькай і нейкая даўно смажаная рыба.

— І гэта ўсё? — здзіўляюся я.

— Яшчэ ёсць бігос, — не надта ветліва адказвае буфетчыца, незадаволеная такой прыдзірлівасцю.

—Тут не разжывецеся, — заўважае за мною нейкі селянін.

— Тут толькі грошы браць умеюць, — дадае іншы. — Цэны, як у рэстаране.

— Гэта праўда? — пытаю загадчыка Барадзюка, які толькі што хваліўся гэтым буфетам.

— Так, буфет адміністрацыйна падпарадкаваны дуброўскаму рэстарану і таму тут такія ж цэны, як у рэстаране.

Урэшце аб'явілі канец абедзеннага перапынку. Плантатары кінуліся да сваіх вазоў. Кожны з іх хацеў як мага хутчэй здаць плён гадавой, мазолістай працы.

— Прыёмныя пункты, — інфармаваў мяне загадчык Барадзюк, — дзейнічаюць у Дуброве, Новым Двары, у Сідры і Ліпску. Кожны плантатар атрымаў паведамленне, калі і ў колькі гадзін мае прыехаць на скупачны пункт. Аднак сяляне недаверліва адносяцца да гэтых паведамленняў і стараюцца прыехаць як найраней, каб заняць месца ў чарзе.

Пытаю пра гэта ў сялян. З іх адказаў вынікае, што праўда, як заўсёды, знаходзіцца больш-менш пасярэдзіне.

На Дуброўшчыне і часткова ў Сакольскім павеце амаль усе сяляне жывуць з тытуню. Там яго вырошчваюць здаўна. Гэта высокарэнтабельная сельскагаспадарчая культура, аднак яна патрабуе шмат цяжкай ручной працы.

Дык не здаецца мне нармальным такое становішча, што селянін вымушаны ехаць 15 км адно дзеля таго, каб здаць некалькі дзесяткаў кілаграм тытунёвага лісця. Ці арганізатары вырошчвання і скупкі гэтай расліны не маглі б арганізаваць хаця б сезонныя, перасоўчныя пункты скупкі, абсталяваныя на аўтамашынах ці ў нейкіх будынках — непасрэдна ў вёсках, дзе тытунь вырошчваюць? Тут трэба выкарыстаць вопыт скупкі іншых сезонных тавараў, для прыкладу — трускалак.

У гэты момант прыпомніўся мне воклік солтыса з вёскі Ракавічы, што 11 км за Ліпскам:

— О, цяпер то ўжо добра! — гаварыў ён. — Цяпер тытунь прымаюць у Ліпску, а калісьці вазілі мы яго аж у Дуброву або ў Аўгустоў!

Сезон скупкі тытуню ў гэтым годзе ўжо закончыўся. Ёсць аднак час, каб зрабіць адпаведныя высновы на будучыню.

**Максім Нурэцкі**
фота аўтара

**У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ**

**У будні дзень у Саколцы.**

**Фота Я. Цялушэцкага**



# РОДАМ З БЕЛАРУСІ

Падаем спісак сучасных польскіх пісьменнікаў, якія нарадзіліся ў Беларусі.

**Ваньковіч Мельхіёр** — нар. у 1892 г. ў Калужыцах (пам. 1974 г.). Празаік, рэпартажыст. Аўтар раманаў „Зелле на кратэры", „Па слядах Смэнтка" і інш.

**Варашыльскі Віктар** — нар. у 1927 г. ў Гродне. Паэт, празаік, перакладчык савецкай літаратуры. Аўтар рамана „І ты астаешся індзейцам".

**Кабац Яўгеній** — нар. у 1930 г. у Валкавыску. Празаік, перакладчык савецкай літаратуры. Аўтар раманаў „Прыгода з Агнешкай", „Чарапахі" і інш.

**Корсак Уладзімір** — нар. у 1886 г. у Анінску, што каля Віцебска. Празаік, аўтар кніжак для моладзі „Да індзейскага рубяжа", „Лес мне сказаў".

**Мадэй Багдан** — нар. у 1934 г. у Мікашэвічах, што каля Лунінца. Празаік. Аўтар раманаў „Бяседа", „Канстэляцыя" і інш.

**Мацёнг Уладзімір** — нар. у 1925 г. у Брэсце. Празаік, літаратурны крытык, аўтар падручнікаў. У 1965 г. узнагароджаны за кніжку „Жэромскі".

**Ордан Ежы** — нар. у 1934 г. у Пінску. Паэт, празаік, публіцыст. Аўтар томаў паэзіі „Цела зямлі" і „Поза рэчаў".

**Путрамент Ежы** — нар. у 1910 г. у Мінску. Паэт, празаік, фельетаніст. Аўтар узнагароджаных раманаў „Верасень", „Раздарожжа", „Палова стагоддзя".

**Сікірыцкі Ігар** — нар. у 1920 г. у Брэсце. Паэт, празаік, сатырык, аўтар кніжак для моладзі, перакладчык савецкай літаратуры. Аўтар рамана „Сем непрысутных".

**Сіто Ежы** — нар. у 1934 г. у Пінску. Паэт, перакладчык англійскай літаратуры. Аўтар тома паэзіі „Уцёкі ў Егіпет".

**Скварніцкі Марэк** — нар. у 1930 г. у Гродне. Паэт, празаік, фельетаніст. Аўтар рамана „Марцін".

**Тэрлікоўская-Войшніс Гражына** — нар. у 1916 г. у Слуцку. Празаік, публіцыст.

**Ціс Казімір** — нар. у 1919 г. у Жылічах, што каля Гродна. Паэт, перакладчык. Аўтар узнагароджанага ў 1965 г. тома паэзіі „Уваход у дом".

**Шпакоўская Альдона** — нар. у 1916 г. у Віцебску. Перакладчыца англійскай літаратуры.

**Шпыркувна Мар'я** — нар. у 1893 г. у Віцебску. Паэтэса, празаік, аўтар кніжак для моладзі („Мікалайкі-самагрейкі").

**Шчапанская Нора** — нар. у 1914 г. у Віцебску. Паэтэса, празаік. Аўтар рамана „Вуха правадыра".

**Яцкевічова Эльжбета** — нар. у 1902 г. у Навінках, што каля Несвіжа. Празаік, публіцыст. Аўтар раманаў „Учарашняя маладосць", „Дзяўчаты шукаюць дарогі" і інш.

**Пётр Байко**

## ХЛОПЦЫ З РЭПІСКАЎ

Хлопцы з Рэпіскаў прыйшлі ў аддзел БГКТ. Папрасілі ў Віктара Буры — сакратара аддзела нейкі матэрыял, „каб зрабіць прадстаўленне" ў сваёй вёсцы.

Былі гэта Славік Паўлоўскі (вучыцца ў Драўнінным тэхнікуме ў Гайнаўцы) і Генік (а мо Жэнік) Навіцкі — ужо закончыў прафесіянальную школу, працуе на мэблевай фабрыцы ў Гайнаўцы. Абодва даязджаюць у Гайнаўку, але жывуць жыццём сваёй вёскі.

— Вось учора, — гаварылі, — быў сход. Моладзь у вёсцы ёсць, сабраліся тады і рашылі падрыхтаваць „прадстаўленне". Вёска любіць паглядзець, як маладыя выступаюць. З выпадку гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі група моладзі падрыхтавала „складанку" — песні, вершы. Глядзець прыйшла ўся вёска.

Цяпер хочуць яны паставіць п'есу. У аддзеле хлопцы атрымалі рэпертуар. Будзем чакаць, калі напішуць, як удалося ім. (вл)

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### АЛЯКСАНДР НЕСЦЯРУК

Аляксандр Несцярук, вядомы баксёр беластоцкай „Гвардыі", нарадзіўся ў 1951 годзе на хутары Глейск каля Гарадка. Выступае ў паўцяжкай вагавай катэгорыі. Правёў 106 паядынкаў. Пяць разоў быў чэмпіёнам беластоцкай акругі. У 1972 годзе на чэмпіянаце Польшчы ў Лодзі заваяваў бронзавы медаль.

Аляксандр Несцярук — валявы і вынослівы баксёр. Ён паспяхова выступаў і ў мінулым сезоне ў адборачных матчах за ўваход у другую лігу, а яго дынамічны паядынак у апошнім, рашаючым матчы з люблінскім „Маторам" і перахіліў шалі ў карысць беластоцкай каманды.

На здымку А. Несцярук (справа) у рашаючым паядынку, які вывеў беластоцкую „Гвардыю" у II лігу.

**Тэкст і фота Ю. Леў.**

## Беларуская літаратура

Аляксандр Барщэўскі

# Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА XXXIV

**Проза.** Апавяданне „Шаман" займае пераходную пазіцыю паміж мастацкім творам і падарожным рэпартажам. Выступае ў ім быццам працяг тэм і разважанняў, якія праявіліся ў „Апокрыфе" і ў „Апавяданні аб іконніку і залатару" наконт прыгожага ў жыцці чалавека.

Паняцце прыгожага разглядае тут аўтар на зусім іншым, чым мы гэта бачылі ў папярэдніх апавяданнях, прыкладзе. Гаворачы парадаксальна, можна сказаць, што шукае хараства там, дзе яго няма. Аднак гэтае „няма" мае ўмоўны характар.

Багдановіч апавядае аб сустрэчы з чалавекам, які вярнуўся з далёкай поўначы, з Нарымскага краю. Паслухайма, як характарызуе падарожны прыгажосць, а можа лепш сказаць убоства поўначы: „...ночы там доўгія, цёмныя, бязмесячныя. Цягнуцца яны, цягнуцца і, здаецца, канца ім няма. Але і ў дзень прыемнага мала: снег, адзін снег навакол, куды ні глянь — усё снег ляжыць ды яшчэ да таго з неба валіцца. З раслін адны толькі скарлючаныя бярозкі спатыкаюцца; праўда, летам яшчэ мох ёсць, а к восені журавіна паспявае, але гэтулькі тады рознай машкары з'явіцца, што і лету не будзеш рад: ледзь - ледзь не з'ядае яна чалавека. Цяжкае і прыкрае там жыццё".

Трэба сказаць, што ў гэтым малюнку няма нічога прывабнага, наадварот, ёсць многа такога, што, як грозная катастрафальная казка, пужае чалавека.

Тым часам з далейшага працягу апавядання даведваемся, што ў адну з юрт прыехаў шаман, які, узяўшы бубен у рукі, праспяваў пахвальную оду ў чэсць прыгажосці і снегу, і дрэў, і сабак, і аленяў, і прылад — словам, у чэсць хараства ўсяго Нарымскага краю.

Які з гэтага вывад? Просты. Паняцце красы — гэта паняцце суб'ектыўнае. Няма аб'ектыўных і вечных крытэрыяў, мерыл прыгажосці. На гэта маем многа прыкладаў. Вядома, што XIX ст. было стагоддзем з вельмі развітым пачуццём прыгажосці, а гэтае ж стагоддзе дазволіла паміраць з голаду славутаму Ван Гогу, бо ніхто не хацеў купляць яго карцін. Зараз за яго карціны плацяць мільёны долараў. А вартасць карцін не змянілася! Або гляньце на сусветнае малярства. Скажам, на ідэал жанчыны ў свеце мастакоў. Для Рубенса ідэалам жаночай прыгажосці была жанчына прынамсі 90-кілаграмная, для імпрэсіяністаў — тоненькая, шчуплая, па сутнасці худая.

Тое, што прыгожае для аднаго, можа здавацца брыдкім другому. Свет разнародны. У гэтым і праяўляецца яго прыгажосць. Што ж гэта быў бы за свет, калі б, напрыклад, усе аднолькава апраналіся, аднолькава елі, аднолькава думалі.

Вернемся аднак да „Шамана". У ім якраз і маем дачыненне з праблемай суб'ектыўнасці ў разуменні прыгожага. Можа, яшчэ раз аддамо голас герою апавядання, які тлумачыць гэтую праблему:

„І здалося мне тады, што я на адзін з найвялікшых каранёў красы натрапіў. Здалося мне, што пачуццё красы вытварылі сабе людзі таму, што былі змучаны і запуджаны суровай зямлёй; вытварылі, каб пазбыцца няяснага, але бяскрайнага, усю душу запаўняючага смутку. І тады лягчэй стала ім жыці, бо зямлю яны бачылі прыгожай..."

Ці ж гэта ўсё не пераклікаецца з выказваннямі Хрыста, які ў „Апокрыфе" гаварыў, што жыццё беларускага селяніна страшэнна беднае, але нельга гэтага жыцця пазбаўляць такіх яго аздобаў, як песня і васілёк?..

Пераклікаецца. Значыць, маем тут дачыненне з прадаўжэннем размовы аб прыгожым у жыцці чалавека. Маем аднак тут і пэўны клопат. „У „Апокрыфе" і „Апавяданні аб іконніку і залатару" была зусім яснай пазіцыя Багдановіча. Там ён падтрымліваў Хрыста і залатніка, якія баранілі прыгажосць. У „Шамане" пазіцыя аўтара няясная. Калі трактаваць гэтае апавяданне як падарожны рэпартаж або падарожную імпрэсію, дык постаць Багдановіча трэба было б атоесамліваць не з падарожным, выказванне якога мы вышэй цытавалі, а з другім чалавекам — апанентам падарожнага, які прыводзіць малапераканаўчыя прыклады аб абыякавасці грэкаў і рымлян да прыгажосці прыроды.

Аднак няма ніякіх падстаў думаць, што „Шаман" мае сціслы дакументальны характар і што адзін з пасажыраў — гэта напэўна Багдановіч. Справа ў тым, што, ведаючы элементарна Багдановіча, можам якраз яму прыпісаць тыя погляды на хараство ў жыцці, якія выказвае падарожны, пабываўшы ў Нарымскім краі.

Чым растлумачыць тое, што ўсе свае празаічныя творы Багдановіч прысвяціў праблеме прыгажосці музыкі, мастацтва, формы?

Па-першае, можна думаць, што гэтыя творы былі формай палемікі з усім нашаніўскім рухам. У нашаніўскай літаратуры маем дачыненне з дамінацыяй зместу над формай. Сам Багдановіч быў „ахвярай" такога ўпрыгожанага разумення літаратуры. Даўжэйшы час некаторыя з рэдактараў „Нашай нівы" не хацелі друкаваць вершаў Багдановіча, бо лічылі іх фармалістычнымі. Датычыцца гэта перш за ўсё Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага).

Па-другое, Багдановіч быў сведкам забітасці беларуса. Бачыў яго прыроджаную, інтуіцыйную, скрытую схіль-

 

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### АЛЯКСАНДР ШЫМАНЮК

У Нараўкаўскай гміне, а таксама ў цэлым Гайнаўскім павеце найлепш дзейнічаюць сельскагаспадарчыя гурткі ў Семяноўцы і Міклашэве. Асабліва добра працуе семяноўскі сельгасгурток, з якім ад заснавання непарыўна звязаў свой лёс Аляксандр Шыманюк, сын Паўла.

Сельгасгурткоўцы пачыналі сваю дзейнасць ад малатарні. Купілі яе, сабраўшы значную колькасць уласных грошай. Арганізатарамі „кулка“ былі Ян Шыманюк, Кастусь Засім, Ян Мароз, Аляксандр Шыманюк і Аляксандр Засім. Калі не хапіла сабраных грошай, арганізавалі дахадовую забаву. Уступіць у сельгасгурток і купіць абмалотачны агрэгат горача заахвочваў аграном Ян



Байко. На другі год мелі ўжо два трактары. Цяпер маюць дванаццаць і багаты састаў падвесных машын, гаражы і тры млынкі-сьрутоўнікі, якія шмат гадоў паспяхова абслугоўвае Аляксандр Засім.

Семяноўскі сельгасгурток выконвае паслугі жыхарам вёсак Семяноўка, Слабодка, Лука, Альхоўка, Баб'я Гара, Варавыя, Пасекі, Забрады, Семенякоўшчына.

У 1973 годзе сельгасгурток з Семяноўкі заваяваў першае месца ў павеце. Трактарысты дапамаглі скасіць у пару збожжавыя культуры ўсім гаспадарам з семяноўскай акругі, якія зрабілі заказы на гэткія паслугі. За добрую работу яны атрымалі грашовыя ўзнагароды павятовага Праўлення сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы — па дзве з палавінаю тысячы злотых. Узнагароджаны былі Мікалай Засім, Рышард Казбярук, Міхась Матысюк і дыспетчар Аляксандр Шыманюк. Трактарысты выпрацавалі па 1000 і 1500 працагадзін. Сельгасгурток атрымаў значны даход. У гэтым годзе сельскагаспадарчы гурток у Семяноўцы павялічыць колькасць сваіх трактараў і будзе абслугоўваць дадаткова вёску Тарнопаль.

Варта дадаць, што сельгасгурток дапамагае ў працы гурткам вясковых гаспадынь (КГВ) арганізаваць кулінарныя курсы, купляць інспектавыя вокны, насенне малавядомай агародніны.

Загадчык семяноўскага сельгасгуртка Аляксандр Шыманюк мае высокія прадукцыйныя паказчыкі на сваёй гаспадарцы. Гадуе восем кароў. Прадае дзяржаве чатыры або пяць штук свіней у год. У 1973 годзе даставіў на пункт скупкі сем тон бульбы. Атрымлівае таксама высокія ўраджаі збожжавых культур, дзякуючы, зразумела, мінеральным угнаенням. У яго ёсць і ўласныя доследныя палеткі. На гаспадарцы А. Шыманюку дапамагаюць яго два сыны. Супольна яны пабудавалі мураваны дом з усімі выгодамі.

Працавіты і спагадлівы семяноўскі гаспадар А. Шыманюк — гэта актыўны грамадскі дзеяч. Ён з'яўляецца членам гміннага і павятовага камітэтаў партыі, актывістам БГКТ. Па яго ініцыятыве ў ваколіцы пабудаваны лепшыя дарогі, арганізоўваліся беларускія фэстыны і іншыя народныя гулянні.

У вайну Аляксандр Шыманюк служыў у Чырвонай Арміі і Польскім Войску. Ён узнагароджаны медалем Перамогі, а таксама Сярэбраным Крыжам Заслугі.

**Я. Цялушэцкі**
Фота аўтара

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*СЯМЕЙНАЯ*




*Шчыкну, шчыкну з ружы кветку*
*Пушчу я й на воду,*
*Плыві, плыві, з ружы кветка,*
*Аж до мого роду.*
*Плыві, плыві з ружы кветка*
*Аж до мого роду.*
*Плыла, плыла з ружы кветка*
*Пры бярэжку стала*
*Выйшла маці воду браці —*
*Кветачку пазнала.*
*Выйшла маці воду браці —*
*Кветачку пазнала.*
*— Чом ты, кветка, чом ты, кветка,*
*На вадзе збляднела?*
*Мусі мая дочка родна*
*Тры гады хварэла.*
*Мусі мая дочка родна*
*Тры гады хварэла.*

*— Ні балела, ні хварэла*
*Ні дня, ні гадзіны —*
*Папалася злому мужу,*
*Нівернуй дружыні.*
*Папалася злому мужу,*
*Нівернуй дружыні.*
*Ні так, ні так дружыненцы,*
*Як ліхому мужу.*
*Утапіла міне маці,*
*Як каноплі ў лужу.*
*Утапіла міне маці,*
*Як каноплі ў лужу.*
*Мокнуць, мокнуць канапелькі*
*Пара іх вымаці*
*Утапіла міне маці*
*Навек гараваці.*
*Утапіла міне маці*
*Навек гараваці.*

Ад Глафіры Часновіч, 1930 года нараджэння, вёска Гураны Сакольскага павету, запісаў 4 кастрычніка 1974 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіла Людміла Панько.

## ВЁР-НЕ-ВЕР

### ВЯЗ

**Сёння падаем прагнозы галійскага гараскопу для тых, хто нарадзіўся паміж 12-24 студзеня і 15-25 ліпеня.**

Вяз бывае звычайна вялікі, прыстойны, мае добрую фігуру. За жанчынай-вязам часта аглядаюцца на вуліцы. Вялікі поспех у жанчын мае і мужчына-вяз (толькі тут маленькая агаворка — няма ў ім нічога з Дон Жуана). Аднак ён не прысвячае занадта вялікай увагі сваёй асобе: апранаецца з крыху занядбанай свабодай і часта не можа расстацца са сваім любімым світэрам. Займіся гэтым чалавекам, калі ён яшчэ малады.

У вяза няма занадта вялікіх вымаганняў і не любіць ён ускладняць сабе жыццё. Характарызуе яго спакой і раўнавага. Лёгка можна прабачыць яму яго адмоўную рысу — ён занадта павольны. Нягледзячы на выгляд вяз мае вельмі далікатнае здароўе.

Вяз просталінейны і адкрыты, вельмі шчыры. Верыць у дабрату людзей. Справы, якія ён абараняе, заўсёды чэсныя, таму вяз верыць, што раней ці пазней яны будуць прызнаны ўсімі. Але таму, між іншым, мацней, чым іншыя, перажывае расчараванні.

Вяз робіць шмат дабра для сваіх блізкіх (мае пачуццё абавязку). У сваіх пачуццях вяз гарачы, можа нават страсны. Калі ўдасца яму зрабіць адпаведны выбар, то каханне пад яго дахам можа дачакацца дыяментных гадоў.

Любіць камандаваць, затое значна менш — слухаць. Мае вялікі ўплыў на іншых і нярэдка ўмее гэта выкарыстаць. Ён вельмі зручны ў кіраванні людзьмі, але яго вымаганні такія вялікія як і каханне, якое сам ён дае. Пастарайся сцярпець гэта, бо варта: умее быць вельмі адданым.

Вяз здольны і мае зручныя рукі. Ён характарызуецца інтэлігенцыяй канкрэтнай і практычнай. Мае таксама пачуццё гумару і менавіта яно ратуе яго ў момантах расчаравання.

Яго жыццё будзе прыемнае, такое, якога ён жадае.

**Астрон**

**НЕ РАБІ ІНШАМУ ТАГО, ЧАГО НЕ ПАЖАДАЎ БЫ САБЕ!**

насць да творчасці і знешнюю, выкліканую страшэннымі ўмовамі жыцця абыякавасць да прыгожага.

Сваімі апавяданнямі „Музыка“, „Апокрыф“, „Апавяданне аб іконніку і залатару“, „Шаман“ Багдановіч хацеў узбудзіць у народнай душы адвечную прагу творчасці, адвечную любоў да хараства.

Такім чынам, названыя апавяданні маюць праграмны характар. Гэтым тлумачыцца наяўнасць у іх змесце пэўнай крайнасці, амаль гіперболікі. Гэтым тлумачыцца тое, што ў гэтых творах выступаюць постаці і суджэнні крайне супрацьстаўныя. Маем тут дачыненне з дыскусіяй праўды з няпраўдай, слушнасці з фальшывасцю. Напэўна, інтэрпрэтуючы апавяданні Багдановіча, магло б здавацца, што пісьменнік крайні фармаліст, што ён супрацьстаўляе змест форме, што ён прыхільнік чыстай красы і вораг зместу. Такі погляд, аднак, быў бы фальшывы. Хопіць узяць першы-лепшы верш Багдановіча, або ўсе яго вершы, каб пераканацца, што няма ў яго ніводнага „пустога“ твора, што ўсе яны напоўнены глыбокім зместам, што выступае ў іх гармонія формы і зместу.

Можна думаць, што ідэю аб дамінацыі формы над зместам кіраваў Багдановіч у адрас тых беларускіх пісьменнікаў, у якіх змест быў усім, а форма нічым.

Ёсць прымаўка: „Каб выпраставаць, трэба перагнуць“. Вось гэта і рабіў Багдановіч.



*У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ*

*Сцэна з п'есы „Суд“ у выкананні самадзейнікаў з Мяляшкоў Беластоцкага павету.* *Фота А. Карпюка.*

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў ў Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Кандрат Крапіва,** Пучок жыгучкі 1973, стар. 80, цана 4 зл. 40 гр.

Зборнік выбраных баек для школьнікаў старэйшага ўзросту („Вол і авадзень“, „Дзед і баба“, „Дыпламаваны баран“ і іншыя). Ілюстрацыі У. Пашчасцева.

**Сяргей Грахоўскі,** Агеньчык у акне 1972, стар. 64, цана 2 зл. 40 гр.

Зборнік займальных апавяданняў для малога чытача. Каляровыя малюнкі М. Бельскага.

Цудоўная дудка 1972, цана 1 зл. 70 гр.

Займальная беларуская народная казка ў літаратурнай апрацоўцы А. Якімовіча і з каляровымі ілюстрацыямі М. Гуціева. Выдадзена ў серыі „Казка за казкай“.

Іван Меншы — розумам мудрэйшы, 1973, стар. 222, цана 4 зл. 80 гр.

Зборнік самых папулярных рускіх народных казак у перакладзе на беларускую мову М. Паслядовіча. Малюнкі Г. і Н. Паплаўскіх. Надта добры артыкул „Пра казкі і казачнікаў“, які адкрывае гэтае выданне.

Кнігарня высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу:
„Dom Książki“, 15-089 Białystok ul. Kilińskiego 10.

(мг)



 

## Прафесіянальная звычка

— Вы курыце?
— Не.
— П'еце?
— Толькі мінеральную.
— А можна, прабачце, яшчэ нешта спытацца?
— Калі ласка.
— Дзе працуеце?
— У бюро пагоды.
— Та-ак... А чаму гэта ваш брат пальцам трапляе ў неба? Значыць, прадбачвае дождж, а выпадае снег?
— Усё на свеце бывае.
— Што вам найбольш падабаецца?
— Жывая прырода.
— А не падабаецца?
— Мёртвая матэрыя.
— Ці адчуваеце сябе перад кімсьці вінаватым?
— Перад уласнай жонкай.
— У чым менавіта?
— Сёння раніцай, калі чарговую натацыю чытала, спрабаваў агрызнуцца.
— Што робіце ў вольны ад працы час?
— Чытаю кніжкі.
— А яшчэ?
— Гляджу тэлевізар.
— У шахматы іграеце?
— Не.
— У даміно?
— Таксама не.
— У прэферанс?
— Не, не!
— Лічыце сябе разумным ці наадварот?
— Пакідаю за сабою права не адказваць на гэтае пытанне.
— Та-ак.. Ці лятаеце на паветраных лайнерах?
— Аддаю перавагу чыгуначнаму транспарту.
— Як ставіцеся да турызму?
— Пазітыўна. Больш таго, захапляюся ім. Кожны год раблю турыстычнае падарожжа. Вяртаюся — як нованароджаны.
— Раіце і мне паехаць?
— Вядома.
— Вось, уласна кажучы, і ўсё, што я хацеў папытаць. Дзякую за інфармацыю.
— Чакайце! А навошта яна вам?
— Прапаную турыстычную пуцёўку ў Карпаты. Вось і вырашыў параіцца: браць ці не?
— Чаму ж адразу пра гэта не спыталі?
— Прафесіянальная звычка. Я па фаху — лектар. Да кожнай сваёй тэмы падыходжу здалёк...

**Міхась Пальчык**



### ПРЫЗНАННЕ Ў КАХАННІ

— Дык ты, Кастусь, кажаш, што пакахаў мяне з першага позірку?
— Так.
— І ажэнішся са мною?
— А пэўна.
— Дык пацалуй мяне.
— Эгэ! Яшчэ нехта ўбачыць ды жонцы раскажа.













# НІЎКА



*— Навінка сезону — лыжы павышанай гнуткасці.*

### З ФРАНЦЫІ

Рэдактар газеты, якая выдаецца ў горадзе Дзіжоне, сабраў супрацоўнікаў:

— Пара перастаць бясконца ўжываць прыметнік „мясцовы", „мясцовыя навіны", „мясцовы муніцыпалітэт". Лепш указваць назву горада!

На наступны дзень ён прачытаў у газеце: „Пацярпеўшы быў змешчаны ў бальніцу, дзе яму была зроблена аперацыя пад дзіжонскім наркозам..."

## МІНІБАЙКІ

### ПАДЛОГА І АНУЧА

— Гляджу я на цябе і дзіўлюся, якая ты мурзатая, — з гневам гаварыла Падлога Анучы. — Аж проста сорамна... І як гэта цябе людзі ў рукі бяруць?

— Нічога дзіўнага, — ціха адказала Ануча. — Гэта я толькі што цябе вымыла...

**Д. Шаўчэнка**

### У ЦЫРКУ

Малады дрэсіроўшчык пад апладысменты захопленай публікі кладзе галаву проста ў пашчу ільва. Адзін з гледачоў гаворыць другому:

— Мне б не вельмі хацелася рабіць такія рэчы!

— Мне таксама. Калі ў маім супе трапляецца адзін-адзіны волас, я раблю скандал.

### РЭШТА ПЯЦЬ...

Пытае маці ў дачкі:

— Ану, дачуся, пакажы, якія ў цябе ў дзённіку адзнакі?

— Шэсць троек, а рэшта ўсе пяць, — адказала дачка.

— А з чаго ў цябе там пяць?

— Паводзіны пяць, пяць спазненняў і пяць прапушчаных урокаў.

### ПРАДАЙЦЕ І ХАТУ

Маці паехала да старшай дачкі ў госці. Дома, на вёсцы, засталіся два жанатыя сыны. Праз тыдзень маці атрымлівае ад іх ліст: „Мама, жывем мы добра, але карову прадалі, бо ні Ларыса, ні Люда даіць яе не хочуць, кажучь, што вельмі рана трэба ўставаць".

Маці адказала ім: „Што прадалі карову — правільна зрабілі, калі яе няма каму даіць. Цяпер, дзеткі, ўлічыце, што неўзабаве ўдарацъ маразы. Калі ў вас не будзе каму і дроў нарубаць, — прадайце к чорту і хату".

### У ЛЕКАРА

— Доктар, у мяне вельмі выпадаюць валасы.

— Гэта таму, што вы нервуецеся.

— Магчыма, але я нервуюся якраз таму, што ў мяне выпадаюць валасы!



**...Для падхалімаў ён быў залатым чалавекам, таму дорага каштаваў дзяржаве.**

**...Ён меў уласны погляд на жыццё. На жаль, нецвярозы.**

### ХЛЕБ ДЫК СВОЙ...

Сустрэліся два сябры. Даўно не бачыліся, дык пачалі адзін другога распытваць:

— Ну як справы, Сцяпан? Як дзеці?
— Жывуць у горадзе. Працуюць.
— А мае яшчэ малыя — у школу ходзяць. Табе лягчэй, твае ўжо свой хлеб ядзяць.
— Эгэ ж, эгэ ж, — ківае той галавою, — хлеб свой ядзяць. Толькі штотыдня да мяне па сала прыязджаюць.

### У РЭСТАРАНЕ

У рэстаране наведвальнік доўгі час беспаспяхова намагаецца расправіцца з кавалкам смажанага мяса. Страціўшы апошнюю надзею, ён звяртаецца да афіцыянткі:

— Вазьміце смажаніну назад!
— Не магу. Вы яе пацарапалі!

### ГАНАРОВЫ

Ва ўстанове служачы расказвае, што знайшоў у аўтобусе партманет з грашыма.

— Ну і што ж вы зрабілі? Аднеслі ў міліцыю?

— Не. Не хацелася, каб падумалі, быццам я выстаўляю напаказ сваю добрасумленнасць.

### ПАЛЯЎНІЧЫЯ І ЗАЙЦЫ

Сядзелі хлопцы на лясной палянцы,
Паклаўшы свае стрэльбы пад сасной.
Адзін казаў: „Пабегаюць хай зайцы,
А мы тым часам вып'ем па адной".
Калі ж набраліся, як грэшнікі смалы,
Зайчыха так сказала свайму сыну:
„Не бойся ты і не дрыжы, малы,
Бо паляўнічыя — свае. Яны ж —
„касыя"!

**Іван Быканкоў**

*— Сёння вечарам мяне дома не будзе.*

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Тосі Палавянюк і Гэлі Себясевіч з Парцава, а таксама Галіны Панятоўскай і Хрысціны Вішэнка з Бельска, змяшчаем песню з рэпертуару „Парціты"

## PYTASZ MNIE, CO CI DAM

**słowa: Janusz Kondratowicz**
**muzyka: Marian Zimiński**

Pytasz mnie, co ci dam —
pejzaż miasta, które znam,
wiatru powiew, ulic szybki rytm,
tysiąc słońc w oknach stu,
krótką noc po długim dniu
i neonów kolorowy film.

Nie mów tak, nie mów nie —
już nie zmienisz — ani siebie, ani mnie.
wokół nas jeden świat —
to się zwykle tak zaczyna, właśnie tak!

Pytasz mnie, co ci dam —
roztańczone cienie ścian,
widok z okna, ciszy drugi brzeg,
oczu blask, światło świec
i szalony bieg dwu serc —
aż do końca, aż po krótki sen.

Nie mów tak, nie mów nie...

Pytasz mnie, co ci dam —
jedną chwilę wspólną nam,
ślad na wodzie, niewysłany list,
trawy źdźbło, jakiś wiersz,
powiedz tylko — cóż to jest —
czasem wszystko, czasem prawie nic.

Nie mów tak, nie mów nie...

## КУРЁЗЫ

### ЯШЧЭ РЭКОРД

Акцёр Кен Дод, які дзейнічае на брытанскім тэлебачанні, паставіў сусветны рэкорд і быў занесены ў так званую „Кнігу рэкордаў Гінеса". У гэты рэестр, як вядома, заносяцца розныя эксцэнтрычныя і кур'ёзныя рэкорды, пастаўленыя жыхарамі Вялікабрытаніі. Новы рэкардсмен, выступаючы з канцэртам на сцэне ліверпульскага тэатра „Ройял корт" змог без перапынку на працягу трох гадзін выпаліць дзвесце анекдотаў.

### „ДОЎТАВАЛОСЫЯ АБСЛУГОЎВАЮЦЦА Ў АПОШНЮЮ ЧАРГУ"

„Доўтавалосыя мужчыны абслугоўваюцца тут у апошнюю чаргу" — такія аб'явы цяпер не рэдкасць у сінгапурскіх магазінах, страхавых кампаніях і тэатральных касах. Не маючы сіл дабіцца добраахвотнай адмовы маладых людзей ад нашэння занадта пышных і звычайна брудных шавалюр, гарадскія ўлады Сінгапура пачалі кампанію „за ахайнасць прычосак".

### ВОДАПРАВОД ДЛЯ ДУБА

Персанальны водаправод будзе падведзены да велізарнага старога дуба — самага буйнага ва ўсёй Саксоніі, — які расце на поўдзень ад горада Лейпцыга.

Блізкасць буравугальнага кар'ера рэзка скарацІла колькасць грунтовых вод у гэтым раёне. Гэта пагражала магутнаму дрэву павольным засыханнем. Мясцовыя жыхары вырашылі падвесці да яго крыніцу жыватворнай вільгаці і тым самым выратавалі унікальны дуб.

### ЛЕПЕЙ ЛЕПШАГА

Адзін заходнегерманскі публіцыст так ахарактарызаваў склад хрысціянска-дэмакратычнай партыі ФРГ: „У гэтай партыі хрысціян — адзінкі, а дэмакратаў і яшчэ менш".




*Будзь ветлівы з тымі, каго сустракаеш па дарозе наверх, бо, спускаючыся ўніз, ты зноў можаш з імі сустрэцца.*